*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 39 (626)** **22 КАСТРЫЧНІКА 2003 г.**

## 25 гадоў пантыфікату Рымскага Папы Яна Паўла II



16 кастрычніка споўнілася 25 гадоў з дня пантыфікату Рымскага Папы Яна Паўла II.

**З апостальскага дабраславення Папы беларуская мова стала адной з моваў каталіцкага касцёла.**

На сёння беларуская мова ўжываецца ў большасці касцёлаў Беларусі. У адных гэта чыстая беларуская мова на працягу ўсяго набажэнства, у іншых гэта беларуска-польскае дзвюхмоўе. Асаблівасць гэтага дзвюхмоўя ў тым, што высокаадукаваныя ксяндзы, нават этнічныя палякі, асвойваюць беларускую мову даволі лёгка. А вось маларпісьменныя беларускія бабулькі, вывучыўшы некалі пацеры па-польску, ніякім спосабам перавучвацца не збіраюцца.

Але ў гэтым касцельным дзвюхмоўі беларуская мова мае значна лепшыя перспектывы, чым у руска-беларускім дзвюхмоўі дзяржаўным.

**13 кастрычніка 2003 г. № 224**

**Апостальскаму Нунцыю ў Беларусі**
**Арцыбіскупу Івану Юркавічу**
**Вул. Валадарскага 6**
**220050, Менск**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" віншуе Яго Святасць Папу Яна Паўла II з 25-мі ўгодкамі яго Пантыфікату і жадае яму новых поспехаў у служэнні Богу, нясенні веры і Хрыстовага міру. Мы вельмі ўдзячныя каталіцкаму касцёлу за шанаванне і пашырэнне беларускай мовы сярод грамадзян Беларусі і ва ўсім свеце.

З глыбокай павагай,
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** **Трусаў А. А.**



**Беларускамоўная імша на гонар 25-годдзя пантыфікату Яна Паўла II у Лідскім Слабадскім касцёле Беззаганнага зачацця Святой дзевы Марыі 19 кастрычніка 2003 г. Беларускамоўныя набажэнствы ў гэтай парафіі ідуць ужо больш дзесяці гадоў.**

## 15 гадоў БНФ "Адраджэньне"



19 кастрычніка 1988 года на ўстаноўчым сходзе Беларускага гістарычна-асветнага таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралог Беларусі" па прапанове Зянона Пазьняка ўтвораны Арганізацыйны камітэт БНФ за перабудову "Адраджэньне". На сходзе прысутнічала каля 400 чалавек. У аргкамітэт увайшлі віднейшыя прадстаўнікі нацыянальнай эліты Беларусі, будучыя кіраўнікі партый, рухаў, грамадскіх арганізацый. Пачалася новая эпоха ў гісторыі Беларусі, эпоха яшчэ аднаго вычыну беларускага народа, яшчэ адной спробы зрэалізаваць адвечнае імкненне да свабоды, незалежнасці і годнага жыцця.

**БНФ "Адраджэньне" першым у навейшай гісторыі Беларусі паставіў пытанне пра дзяржаўнасць беларускай мовы.**

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" вітаюць кіраўніцтва і ўсіх сяброў ГА "БНФ "Адраджэньне" ў дзень 15-годдзя. Мы выказваем шчырыя спадзяванні, што і надалей у барацьбе за абарону і развіццё беларускай мовы мы будзем мець сяброў БНФ надзейнымі паплечнікамі ў кожным нашым пачынанні, што пункт пра дзяржаўнасць беларускай мовы ніколі не пакіне Праграмы ГА "БНФ "Адраджэньне".

## 115 гадоў з дня народзінаў Язэпа Драздовіча



ДРАЗДОВІЧ Язэп Нарцызавіч 1 (13).10.1888, засценак Пунькі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н – 15. 8. 1954), беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог. Адзін з заснавальнікаў нац. гіст. жывапісу, майстар дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Нарадзіўся ў сям'і збяднелага шляхціца-арандатара. Скончыў Віленскую школу малявання (1908). У 1910-14 служыў у арміі, дзе скончыў фельчарскія курсы, у 1-ю сусв. вайну – на Зах. Фронце. Пасля звальнення з арміі з-за стану здароўя жыў на Дзісеншчыне ў фальварку Лявонаўка каля в. Германавічы. У 1919-20 у Менску: мастак-дэкаратар у "Беларускай хатцы", Бел. Дзярж. Тэатры; у 1919 арганізаваў культ.-асв. т-ва "Заранка", якое адчыніла школы, аматарскі тэатр, бібліятэку; выкладаў малюнак у бел. гімназіі і жаночай прагімназіі, супрацоўнічаў з літвыдавецтвамі як ілюстратар. Пасля вяртання на Дзісеншчыну, якая паводле Рыжскага дагавора 1921 адышла да Польшчы, у 1921-22 спрабаваў арганізаваць на радзіме бел. школы. У 1924-26 выкладаў маляванне ў Глыбоцкай польскай школе, актыўна супрацоўнічаў з ТБШ. Працаваў у Радашковіцкай бел. гімназіі імя Ф. Скарыны. У 1926-27 супрацоўнічаў у сатырычным час. "Маланка". У 1927 заснаваў мастацкую студыю пры Віленскай бел. гімназіі. У 1927-29 выкладаў маляванне ў бел. гімназіі ў Навагрудку, вёў работу па зборы экспанатаў для Віленскага бел. музея. У пач. 1930-х гадоў спрабаваў працаўладкавацца ў Вільні. Пасля далучэння Зах. Беларусі да БССР вучыўся на кароткачасовых настаўніцкіх курсах і ў 1940-41 працаваў настаўнікам малявання і батанікі ў Глыбокім і Лужках.

Першыя малюнкі Драздовічам зроблены ў 1907 ("Трызна мінуўшчыны", "Дух зямлі", "Брамка будучыні"). Аформіў вокладкі "Беларускага календара на 1910", кнігі К. Буйло "Курганная кветка" (1914), "Школьнага спеўніка" А. Грыневіча (1920), час. "Вольны сцяг". З самага пачатку сваёй творчай дзейнасці выкарыстоўваў гістарычныя рэаліі і матывы. У 1916 стварыў скульптуру "Гарыслава" (выяву полацкай княгіні Рагнеды) і бюст Ф. Скарыны.

*(Заканчэнне на ст. 6.)*

# Беларуская мова ў інфармацыйнай прасторы

## Садаклад VIII з'езду ТБМ намесніка старшыні ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" Сяргея Кручкова

Урады ўсіх цывілізаваных краін свету прыкладаюць вялікія высілкі, каб мовы этнасаў, якія жывуць у гэтых дзяржавах былі паўнавартасна прадстаўлены ў інфармацыйнай прасторы. На жаль, гэтага не скажаш пра Беларусь, нягледзячы на тое, што Арганізацыя Аб'яднаных Нацый пастаянна звяртае ўвагу ўрадаў краін на гэтую праблему. Так ў 40 артыкуле Сусветнай дэкларацыі лігвістычных правоў, прынятай у Барселоне 8 чэрвеня 1996 г., сказана, што кожная моўная супольнасць мае права мець у распараджэнні абсталяванне, якое выкарыстоўваецца ў сродках масавай інфармацыі і камунікацыі, адаптаванае для моўнай сістэмы, а таксама праграмнае забеспячэнне на сваёй мове з тым, каб цалкам выкарыстоўваць патэнцыял перадавых тэхналогіяў для свабоднага выражэння думак, адукацыі, камунікацыі, выдавецкай дзейнасці, перакладаў і апрацоўкі інфармацыі, а таксама для распаўсюду культуры ў цэлым.

Мне неаднаразова прыходзілася даводзіць думку, што без паўнавартаснай падтрымкі беларускай мовы ў інфармацыйных тэхналогіях беларусы рызыкуюць стаць непісьменнай нацыяй, нават калі мову змогуць захаваць непасрэдныя носьбіты, бо ў век інфармацыйных тэхналогій мова цалкам згубіць свае ўталітарныя фунцыі.

Тое назіраецца ўжо цяпер. Да прыкладу, з пачатку 2003 года ўлік ў пенсійным фондзе Рэспублікі Беларусь праведзены на камп'ютэрную апрацоўку дадзеных. Большасць з дэлегатаў з'езду пэўна ўжо маюць рускамоўныя пластыкавыя страхавыя пасведчанні, выдадзеныя гэтым фондам. Тыя, хто патрабаваў беларускамоўны варыянт пасведчання, атрымалі яго на звычайнай паперчыне. Але ўсёроўна ўлік у пенсійным фондзе вядзецца выключна па-руску. Рэч у тым, што па словах кіраўніцтва фонду ў Беларусі дагэтуль не прынятыя стандарты для беларускіх літар "і", "ў" і знака апострафа ў электроннай сферы. Падобная сітуацыя і ў банкаўскім сектары. Пластыкавыя карткі спажыўцам выдаюцца на рускай або англійскай мовах. Беларуская ж мова ў праграмах, якія выкарыстоўваюць банкі, не падтрымліваецца. Тое ж чакае і большасць айчынных таваравытворцаў, якія па рашэнні Дзяржстандарта з пачатку 2004 года павінны будуць змяшчаць на ўпакоўках інфармацыю для спажыўца на беларускай мове, сутыкнуцца з праблемай адсутнасці праграмы праверкі арфаграфіі беларускамоўных тэкстаў. З гэтай жа прычыны выдаткі тых выдавецтваў, газет і часопісаў, якія друкуюць па-беларуску значна вышэйшыя. Фактычна створаны ўмовы, калі беларуская мова ў сваёй краіне прайграе ў канкурэнтнай барацьбе.



На жаль, уладныя структуры Беларусі, ад якіх залежыць стварэнне ўмоваў для паўнавартаснага функцыянавання беларускай мовы ў век інфарматызацыі не зацікаўлены ў вырашэнні надзённых пытанняў. Лічу, што Таварыства беларускай мовы разам са сваімі партнёрамі і аднадумцамі можа і павінна на бліжэйшыя гады ўзяць на сябе ініцыятыву развязання большасці самых актуальных праблемаў у інфармацыйнай сферы. А менавіта:

1. Закончыць працу па стварэнні праграмы праверкі арфаграфіі беларускамоўных тэкстаў, якая б мела два правапісных варыянты беларускай мовы. Спадзяюся, што гісторыя сама вызначыць, якім шляхам будзе развівацца беларуская мова. Дарэчы, украінскім кіраўніцтвам для стварэння падобнай праграмы ў свой час было выдаткавана сума ў памеры каля 100.000 долараў ЗША. Бо ў нашых суседзяў гэтая праблема была своечасова асэнсавана, і стварэнню праграмы праверкі арфаграфіі быў нададзены статус дзяржаўнай важнасці. А ў нас, распрацаваная некалькі гадоў таму на кафедры матэматычнага забеспячэння аўтаматызаваных сістэм кіравання БДУ рабочая версія такой праграмы дагэтуль не даведзена да масавага карыстальніка з-за свядомага тармажэння з боку чынавенства. Таму сябры ТБМ на грамадскіх пачатках мусяць стварыць такую праграму наноў.

2. Аб'яднаць намаганні ўсіх зацікаўленых асоб і структур па стварэнні нацыянальнага электроннага корпуса. Такі корпус будзе карысным у шматлікіх даследваннях па розных кірунках: у лексікаграфіі, штучным інтэлекце, моўным сінтэзе і распазнаванні, літаратуразнаўстве і ва ўсіх кірунках лінгвістыкі. Напрыклад, толькі ў лексікаграфіі методыкі, заснаваныя на корпусным падыходзе, дадуць магчымасць даследваць лінгвістычныя і па-за лінгвістычныя асацыяцыі асобных слоў. Раней складальнікі слоўнікаў абмяжоўваліся вызначэннем магчымага значэння слова. Цяпер яны могуць таксама даваць інфармацыю аб найбольш распаўсюджаных значэннях, частотнасці слоў і кантэксце, дзе словы і значэнні з'яўляюцца найбольш звыклымі. Тое ж тычыцца і граматычных структур. Фактычна ўсе еўрапейскія мовы маюць свае корпусы. Нядаўна ва Украіне была аб'яўлена дзяржаўная праграма па стварэнні корпуса. Ствараюцца паралельныя і параўнальныя корпусы для балгарскай, чэшскай, эстонскай, вугорскай, румынскай і славенскай моваў. Самы распрацаваны са славянскіх чэшскі корпус фундуюць вядучыя чэшскія банкі. У нашыя дні большая частка сур'ёзных даследванняў у галіне корпуснай лінгвістыкі сканцэнтравана ў Велікабрытаніі і скандынаўскіх краінах. Брытанскі нацыянальны корпус – самы вялікі і распрацаваны (больш за 100 000 000 тэгаваных словаформаў). Амерыканскі нацыянальны корпус (будзе ўтрымліваць 100 мільёнаў (анатаваных) тэгаваных словаформаў). Удзельнічаюць універсітэты (Берклі, Нью-Ёркскі і інш.). Спонсары – буйнейшыя кампаніі: Microsoft, Sony і інш. – усяго 24 кампаніі. Удзельнічае ў працы некалькі тысячаў чалавек. Кожны спонсар выдзяляе ад 27.000 долараў да 40.000 (на тры гады). Створана лічбавая бібліятэка. Прычым згодна з заканадаўствам ЗША ўсе буйнейшыя выдавецтвы абавязаны перадаваць тэксты распрацоўшчыкам корпуса. У сувязі з гэтым варта ўзгадаць рэакцыю Міністэрства інфармцыі Беларусі на зварот удзельнікаў "круглага стала" "Беларуская мова. Інтэрнет і камп'ютэр", які праводзіўся пад эгідай ЮНЕСКА 20 траўня 2002 года. На просьбу арганізаваць цэнтр па архівацыі электронных тэкстаў на беларускай мове, якія ствараюцца ў дзяржаўных выдавецтвах (гэта б значна паскорыла працэс стварэння нацыянальнага корпуса) паважаная дзяржаўная ўстанова заявіла, што на сённяшні момант не існуе механізму перадачы тэкстаў выдавецтвамі, і для стварэння такога цэнтра неабходны дадатковыя фінансавыя сродкі, якіх міністэрства не мае. Пакзальна, што адзін былы беларускі студэнт з Аўстрыі стварыў у Інтэрнеце рэсурс "Беларуская палічка" на якім змешчаны тысячы тэкстаў на беларускай мове, здолеў коштам уласнай стыпендыі вырашыць фінансавы бок справы і знайсці механізмы перадачы яму тэкстаў прыватнымі выдавецтвамі.

3. Дамагчыся ўключэння слоўнікавай падтрымкі беларускай мовы ў праграмы аптычнага распазнавання тэкстаў. Гэта дазволіць у дзесяткі разоў паскорыць працу па пераводзе створаных у дакамп'ютарны час тэкстаў на беларускай мове з папяровых носьбітаў у электронны фармат.

4. Распачаць працу па стварэнні даведачнай сістэмы беларускай мовы з пераводам ўсіх слоўнікавых крыніц ў электронны фармат, што магло б дазволіць не тольку праверку арфаграфіі, але і прадаставіць функцыі навучання і ўдасканальвання ведаў у беларускай мове.

5. Запатрабаваць ад адказных дзяржаўных установаў укараніць распрацаваныя ў БДУ сістэмы машыннага перакладу з беларускай і на беларускую мову. Гэта дазволіць у дзесяткі разоў спрасціць пераклад падручнікаў і дапаможнікаў для вышэйшых навучальных установаў Беларусі, на недахоп якіх так часта наракаюць чыноўнікі ад адукацыі; арганізаваць, урэшце, прыняцце законаў парламентам адразу на дзвюх дзяржаўных мовах, а не толькі па-руску.

Ужо зараз над вырашэннем пастаўленых задачаў працуюць дзесяткі людзей ў Таварыстве беларускай мовы, Інстытуце мовазнаўства НАН Беларусі, у Скарынаўскім цэнтры. Калі мы ў бліжэйшыя гады здолеем развязаць гэтыя актуальныя праблемы, тады будзе створана дзейсная мадэль беларускай мовы, адэкватная і роўнааб'ёмная яе жывому арганізму, даступная для назірання, вывучэння, змянення і прымянення. А галоўнае - беларусы і наша мова не згубяцца ў сучасным інфармацыйным свеце. Прыходзіцца толькі шкадаваць пра тое, што робіцца гэта не па дзяржаўнай праграме, як ў іншых краінах, дзе ўрады дбаюць пра мовы сваіх народаў, а энтузіястамі, якія разумеюць важнасць справы.

Менавіта з прычыны адмоўнага стаўлення цяперашніх уладаў да роднай мовы мы сёння пазбаўлены магчымасці спажываць інфармацыю па-беларуску і ў такім надзвычай важным інфармацыйным сягменце, як тэлебачанне. У інфармацыйнай прасторы тэлебачанню належыць вядучая роля. Вядома, што яно з'яўляецца моцным сродкам, які ўплывае на фармаванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці, папулярызацыі роднай мовы. У сувязі з гэтым, варта адзначыць што, пачынаючы з 1994 года змяншаецца колькасць і ўдзельная вага тэлевізійнага вяшчання на беларускай мове. 93% тэлетрансляцый ў краіне ажыццяўляюцца на рускай мове. Нацыянальная тэлерадыёкампанія Беларусі мэтанакіравана скарачае час вяшчання на беларускай мове. І нават праграмы навінаў сёлета з верасня транслююцца амаль цалкам па-руску. На чарговы запыт ТБМ намеснік старшыні БТ спадар Мартыненка ў сваім лісце ад 16 верасня 2003 года здзекліва заяўляе, што паводле вынікаў апытання праведзенага лабараторыяй "Новак", "вяшчанне на беларускай мове пажадана для спецыялізаваных праграм і для вузкай аўдыторыі (напрыклад дзіцячыя перадачы)". Кабельныя апэратары на Беларусі, як правіла, рэтранслююць тэлеканалы Расійскай Федэрацыі і некаторыя міжнародныя спадарожнікавыя каналы на англійскай, нямецкай, французскай і польскай мовах. Варта адзначыць, што ўзровень валодання замежнымі мовамі, асабліва сярод прадстаўнікоў старэйшага пакалення, вельмі нізкі, што зніжае глядацкую цікавасць да гэтых інфармацыйных рэсурсаў. Фактычна, сучасны беларус, які жыве ў цэнтры Еўропы, знаходзіцца ў міжнароднай і ўнутранай інфармацыйнай ізаляцыі. Тая сістэма тэлевізійнага інфармацыйнага вяшчання ў Беларусі, якая склалася на сённяшні дзень навязвае неакаланіяльныя погляды, стварае атмасферу ўнутранай культурнай акупацыі, фармуе сярод грамадства светапогляды, якія выгадныя ўладам суседняй краіны, або тутэйшым русіфікатарам і "інтэгратарам". Але, пэўна, прыспеў час, калі нам варта дамагацца не толькі змянення інфармацыйнай палітыкі дзяржаўных электронных СМІ і бясконца выпрошваць у іх нейкія квоты вяшчання на беларускай мове, але і заняцца стварэннем альтэрнатыўнай беларускамоўнай тэлевізійнай прасторы. Навукова-тэхнічны прагрэс у сферы інфармацыйных тэхналогіяў дазваляе нам цалкам скарыстаць сваё права, якое замацавана ў артыкуле 8 Сусветнай дэкларацыі лігвістычных правоў дзе сказана, што: "Кожная моўная супольнасць мае права арганізоўваць свае ўласныя рэсурсы і кіраваць імі з мэтай забеспячэння выкарыстання сваёй мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця". На жаль, ва ўмовах дзяржаўнай манаполіі на стварэнне вяшчальных арганізацый, на тэхнічныя сродкі распаўсюду тэлевізійнага сігналу па тэрыторыі краіны, а таксама практыкі татальнага дзяржаўнага кантролю за зместам тэлевізійных праграм і іх "фільтрацыі" па моўнай прыкмеце, пэўна адзіным выйсцем для беларусаў можа стацца стварэнне па-за межамі Беларусі Міжнароднага беларускага спадарожнікавага канала. Тым больш, што гэта ніяк не супярэчыць міжнародным дакументам, а рэалізуе наша права зафіксаванае ў артыкуле 37 Сусветнай дэкларацыі лігвістычных правоў атрымліваць праз сродкі масавай інфармацыі паглыбленыя веды аб сваёй культурнай спадчыне (гісторыі і геаграфіі, літаратуры і д.т.) і максімальна магчымую інфармацыю аб любой іншай культуры, з якой жадаюць азнаёміцца члены (моўнай-аўт.) супольнасці. У бліжэйшыя два гады варта зрабіць усе неабходныя захады, каб рэалізаваць гэты праект. Трэба звярнуцца не толькі да еўрапейскіх і сусветных структур, якія маглі б паспрыяць рэалізацыі беларускамоўнага тэлевяшчання (а пэўныя крокі Таварыствам беларускай мовы ў гэтым кірунку зробленыя), а таксама аб'яднаць намаганні ўсіх беларускіх сілаў, як унутры краіны, так і беларускай дыяспары ў замежжы. Прыклад іншых народаў сведчыць пра рэальнасць здзяйснення гэтага праекту ўласнымі сіламі. Нават на прасторах СНД ёсць узоры паспяховай рэалізацыі праектаў спадарожнікавага тэлевяшчання. Ужо некалькі гадоў вяшчае тэлеканал "Аджара TV", перадачы якога можна прымаць і на тэрыторыі Беларусі. Прадстаўнікі 600 тысячнага аджарскага народа змаглі дамагчыся свайго. Упэўнены, што і 10-ці мілённы беларускі народ таксама ў стане мець сваё тэлебачанне на сваёй роднай мове незалежна ад жаданняў сёняшніх тэле-русіфікатараў. Такі інфармацыйны рэсурс зможа аб'яднаць беларусаў па ўсім свеце, актыўна папулярызаваць родную мову і культуру, як ў Беларусі, так і ў замежжы. Я думаю, што рэалізацыі ідэі беларускамоўнага тэлевяшчання не перашкодзяць і міфы, якія распаўсюджваюць некаторыя рускамоўныя палітыкі тутэйшага паходжання, пра тое, што беларусы вельмі бедныя не тэхнакратычныя, і, маўляў, не змогуць сабе дазволіць купіць "талерку". Магу супакоіць і паведаміць, што ўжо зараз каля 10% насельніцтва мае магчымасць глядзець спадарожнікавыя каналы, праўда пакуль усе небеларускія. А узровень "тэхнакратычнасці" беларусаў можа прадэманстраваць той факт, што ўжо зараз "бедныя" беларусы апярэдзілі прыкладам літоўцаў па колькасці не надта танных сотавых тэлефонаў на душу насельніцтва. А які можа ўзнікнуць "талерачны" бум, калі ў 73,6% грамадзянаў Беларусі з'явіцца магчымасць глядзець сваё на сваёй роднай мове?





# Заява

**дэлегатаў VIII з'езду Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

### *Шанаванне роднай мовы – адзін з найбліжэйшых шляхоў да дабрабыту і дэмакратыі*

Перад нашым народам зноў паўстаў маральны і палітычны выбар. Адны клічуць нас на Усход, другія заклікаюць рухацца на Захад, у дэмакратычную еўрапейскую супольнасць. Але мы жывём у сваёй краіне, на сваёй зямлі і павінны самі вырашаць уласныя пытанні.

Апошнія сацыялагічныя апытанні сведчаць, што, каб жыць вольна, заможна і годна, большасць грамадзян Беларусі абіраюць свой шлях, звязаны з арыентацыяй на будучую аб'яднаную Еўропу.

Але нешта нам моцна замінае, і мы ўжо шмат год стаім на месцы. Руху наперад перашкаджае наша непавага да сябе, да сваёй мовы і культуры. Носьбітаў гэтай непавагі можна бачыць на дзяржаўных трыбунах, на экранах тэлевізараў, яна праяўляецца на старонках дзяржаўных часопісаў і газет, у метро, на чыгунцы, у школах і ВНУ. Пакуль мы не палюбім сваё – сваю мову, сімволіку, традыцыі і культуру – зменаў да лепшага не адбудзецца. Мы ўжо выказалі сваю думку падчас перапісу насельніцтва ў 1999 г., калі амаль 7 мільёнаў грамадзян Беларусі назвалі сваёй роднай беларускую мову. Аднак трэба замацаваць сваю пазіцыю ў штодзённым жыцці.

Дык давайце палюбім сваю родную мову і гісторыю, скажам свой шчыры дзякуй усім, хто гаворыць, піша і думае па-беларуску, запаўняе на роднай мове анкеты і бланкі, аддае сваіх дзяцей у беларускія школы і класы, чытае лекцыі і вучыцца па-беларуску ў ВНУ, выпісвае беларускамоўныя газеты і часопісы, набывае беларускія кнігі, аудыё- і відэакасеты, ужывае беларускую мову ў рэкламе і гандлі, у міжнародных і міжасабовых стасунках.

Мы вітаем пазіцыю Еўрасаюза, дзе абвешчана роўнасць моў усіх удзельнікаў, незалежна ад колькасці насельніцтва той ці іншай краіны і дзе кожная мова з'яўляецца адначасова і нацыянальнай і агульнаеўрапейскай каштоўнасцю.

Мы выказваем сваю шчырую ўдзячнасць амбасадарам ЗША, Германіі, Францыі, Японіі, Літвы, Кітая і Польшчы, якія ўжываюць беларускую мову ў сваёй працы, і заклікаем да гэтага ўсіх прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу.

Мы раім сённяшнім уладам перастаць змагацца з беларушчынай, бо яна ўсё роўна выжыве і застанецца.

Жыве беларуская мова! Жыве вольная, незалежная, дэмакратычная і заможная Беларусь!

**12 кастрычніка 2003 г.**

# Зварот

**дэлегатаў VIII з'езду Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да грамадзян Беларусі**

Шаноўны суайчыннік!

Хто б ты ні быў – жанчына ці мужчына, дарослы ці малады, селянін, студэнт, рабочы, настаўнік, вайсковец, інжынер ці бізнесовец – ведай, што найлепшы твой твар, вопратка твая, душа твая – беларуская мова.

Калі ты чуеш яе – ці то сучасную літаратурную, ці змешаную "трасянку", або мясцовую дыялектную – знай, што гэта ўсё яна – наша беларуская мова. Не адварочвайся, а прымі яе, бо яе месца ў тваёй краіне. І не падчарка яна тут, а паказвае на спрадвечнасць беларусаў на сваёй зямлі. Нашы бацькі, дзяды і прадзеды нямала зрабілі, каб беларуская мова была прызнаная як роўная сярод іншых моў свету.

Будзь і ты разам з тымі, хто думае пра яе будучыню. Размаўляй па-беларуску, бо заўтра наша мова табе, тваім дзецям і ўнукам стане неабходнай. Размаўляй па-нашаму, каб людзі бачылі тваю вернасць сваёй мове. Размаўляй з прыветнай усмешкай, з пяшчотай на вуснах – і тваёй мовай захочуць гаварыць іншыя. І не саромся недасканалай гаворкі. Мова – жывая тканка, прырастае там, дзе крынічыць людское жаданне. Ведай: учора ты яшчэ не гаварыў па-беларуску, сёння размаўляеш на "трасянцы", а заўтра будзеш гаварыць на чыстай літаратурнай мове.

А людзі, што служаць дзяржаве на чынавенскай пасадзе, табе дзякуй скажуць, бо будуць вучыцца ад цябе. А блізкія і далёкія суседзі адчуюць тваю самапавагу і будуць яшчэ больш цябе паважаць.

З беларускай мовай нам жыць у XXI стагоддзі!

**12 кастрычніка 2003 г.**

# Зварот

**дэлегатаў VIII з'езду Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да палітычнага кіраўніцтва краіны**

Цягам апошніх гадоў ідзе актыўная дэбеларусізацыя тэлевізійнай прасторы Беларусі. Імклівa расце колькасць тэлевізійных каналаў Расійскай Федэрацыі, якія вольна вяшчаюць, як праз тэлевізійны эфір, так і праз кабельныя сеткі нашай краіны. З удзелам дзяржаўнага капіталу заснаваныя рускамоўныя "Агульнанацыянальнае тэлебачанне" і "Сталічнае тэлебачанне". Дзяржтэлерадыёкампанія амаль цалкам спыніла вяшчанне на беларускай мове і непаважна заяўляе, што родная мова беларусаў можа выкарыстоўвацца толькі ў спецыялізаваных праграмах і для вузкай аўдыторыі. Такім чынам, 73,6% грамадзян Беларусі, для якіх родная мова – беларуская, сталіся ў нашай дзяржаве "вузкай аўдыторыяй" і амаль не маюць на тэрыторыі ўласнай краіны вяшчання на сваёй мове.

На наш погляд, дзяржавай не выконваюцца палажэнні Сусветнай дэкларацыі лінвістычных правоў, у якой дэкларавана, што кожная моўная супольнасць мае права выкарыстоўваць сваю мову, падтрымліваць і ўмацоўваць яе ва ўсіх сферах культуры. Ажыццяўленне гэтага права павінна быць поўным, каб не дапусціць пераважнага ўздзеяння чужой культуры на тэрыторыі моўнай супольнасці.

Ігнаруюцца таксама палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у артыкуле 14 якой запісана: "Дзяржава рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове прынцыпаў роўнасці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў". У той самы час вяшчанне на беларускай мове ў краіне складае менш за 7% ад агульнага эфірнага часу.

Мы, удзельнікі з'езду Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны", патрабуем:

- аднавіць тэлевізійныя трансляцыі на беларускай мове;
- прыняць шэраг нарматыўных актаў, якія б забяспечвалі рэальную роўнасць двух асноўных моўных супольнасцяў і рэгламентавалі вяшчанне на дзяржаўнай беларускай мове адпаведна лічбам перапісу насельніцтва;
- зыходзячы з гэтага, абавязаць кабельных аператараў уключаць у пакет праграм адпаведную колькасць беларускамоўнага эфірнага часу.

**12 кастрычніка 2003 г.**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

***дэлегатаў VIII з'езду грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" пра сітуацыю вакол Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа***

З'езд ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" выказвае сваю глыбокую заклапочанасць з нагоды ліквідацыі Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь установы адукацыі "Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа" - адзінага ў свеце беларускамоўнага ліцэя. Усё гэта адбываецца на фоне далейшага скарачэння колькасці беларускамоўных базавых і сярэдніх школ у Рэспубліцы Беларусь, на фоне адсутнасці прагрэсу на дзяржаўным узроўні ў вырашэнні пытання аб адкрыцці Нацыянальнага універсітэта.

Мы заяўляем рашучы пратэст супраць гвалтоўных дзеянняў уладаў у дачыненні да педагагічнага калектыву, выкінутага з дзяржаўнай сістэмы адукацыі, і да навучэнцаў ліцэя, якія выбралі праграмы і методыкі сваіх настаўнікаў. Выкарыстанне АМАПу і іншых сілавых структур, запалохванне навучэнцаў, іх бацькоў і педагогаў - не метад вырашэння педагагічных пытанняў і праблем арганізацыі беларускамоўнай адукацыі.

Мы выказваем сваю падтрымку ўсім, хто пасапраўднаму клапоціцца пра далейшы лёс навучэнцаў ліквідаванага ліцэя і працягвае самаахвярную працу па захаванні ліцэя на грамадскіх пачатках у цяжкіх умовах: ліцэістам, іх бацькам, педагогам, кіраўніцтву ліцэя і ўсім неабыякавым людзям.

Выказваем упэўненасць у тым, што Нацыянальны ліцэй захавае свае структуры і зробіцца падмуркам Беларускага нацыянальнага універсітэта, які мог бы распачаць працу на грамадскіх пачатках пры ўмове яго падтрымкі беларускай і міжнароднай грамадскасцю.

**12 кастрычніка 2003 г.**



**На з'ездзе ТБМ выступае Пётр Краўчанка**

# Зварот

**дэлегатаў VIII з'езду Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" у Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь**

Мы, дэлегаты VIII з'езда ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", глыбока абураныя выцясненнем дзяржаўнай беларускай мовы з праграм Першага нацыянальнага тэлеканала, якое паслядоўна і груба праводзіць апошнім часам кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі. Яго нядаўнімі рашэннямі мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, наогул пазбаўлены магчымасці атрымліваць тэлеінфармацыю на роднай мове.

Незразумелая для нас пазіцыя старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова ў гэтым пытанні, як сведчыць яго інтэрв'ю газеце "Звязда" 8 кастрычніка г.г., з'яўляецца свядомай і непарушнай. Апраўдваючы свае дзеянні, Я.Рыбакоў спасылаецца не на законы нашай краіны, не на выпікі апошняга перапісу насельніцтва Беларусі, а на апытанне лабараторыі "Новак" усяго ... 1097 чалавек, з якіх, дарэчы, толькі 282 выказаліся за пераклад інфармацыйных выпускаў на рускую мову. Гэта, па нашым перакананні, ніяк не можа быць сур'ёзнай падставай для палітычных змен у вяшчальнай практыцы.

Мы лічым, што сваімі апошнімі рашэннямі кіраўнікі Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі замахваюцца на наша святое права на атрыманне інфармацыі на роднай дзяржаўнай мове, і просім даць гэтаму ацэнку, вызначыўшы адпаведнасць дзеянняў кіраўніцтва НДТРК Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь законам аб мовах і аб сродках масавай інфармацыі нашай краіны.

**12 кастрычніка 2003 года.**

# Спіс асобаў,

**абраных у склад Сакратарыяту ГА "Таварыства беларускай мовы імя Франіцшка Скарыны" на VIII з'ездзе ТБМ**

1. Трусаў Алег Анатольевіч
2. Дзіцэвіч Людміла Мікалаеўна
3. Палсцюк Валеры Віктаравіч
4. Багданкевіч Святлана Мікалаеўна
5. Гуркоў Сяргей Мікалаевіч
6. Кручкоў Сяргей Мікалаевіч
7. Запрудскі Сяргей Мікалаевіч
8. Стэпановіч Язэп Міхайлавіч
9. Анісім Алена Мікалаеўна
10. Марачкіна Ірына Сяргееўна
11. Навасельская Таццяна Уладзіміраўна
12. Кавалевіч Дзіяна Леанідаўна
13. Жучкова Наталля Яўгенаўна
14. Тушынскі Дзяніс Міхайлавіч
15. Вабішчэвіч Таццяна Іванаўна
16. Кошчанка Уладзімір Аляксандравіч

# Прывітанні VIII з'езду ТБМ

***Калектыў Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, які з волі беларускіх уладаў знаходзіцца на паўлегальным становішчы накіраваў прывітанне VIII з'езду ТБМ, у якім у прыватнасці гаворыцца:***

"... Калектыў Беларускага гуманітарнага ліцэя шчыра вітае VIII з'езд Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якое аб'ядноўвае захавальнікаў цудоўнага агню нацыянальнай культуры. Менавіта гэты агонь саграває ў наш цяжкі час душу беларускага народа, не дае ёй канчаткова загінуць і асвятляе нам шлях да адраджэння.

Наш ліцэй мае асаблівыя падставы для выказвання Таварыству беларускай мовы свайго захаплення і ўдзячнасці, бо мы абавязаныя яму сваім нараджэннем. Менавіта на паседжанні суполкі ТБМ у адзін з верасеньскіх дзён 1989 года было прынятае рашэнне аб стварэнні нядзяржаўнага Беларускага гуманітарнага ліцэя. Менавіта сябры ТБМ зрабіліся нашымі першымі выкладчыкамі і ўзнялі ўзровень выкладання ў ліцэі на сусветную вышыню.

Супольныя справы і сяброўскія кантакты паміж Таварыствам беларускай мовы і ліцэям ніколі не перапыняліся. У мурах ліцэя адбылася вялікая колькасць надзвычай цікавых і карысных імпрэзаў, выставаў, сустрэч з выбітнымі дзеячамі беларускай культуры, навукі, мастацтва. Гэтая праца ад самага пачатку была галоўнай і адметнай часткай выхаваўчага працэсу ў ліцэі. Магчымасць убачыць і пачуць Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Янку Брыля, Ніла Гілевіча, Радзіма Гарэцкага, Міхася Ткачова, Зянона Пазняка, Алега Трусава, Вольгу Іпатаву, Уладзіміра Арлова і шматлікіх іншых волатаў Беларускага адраджэння, адчуць абаянне іхніх асобаў і моц іхняга таленту, дазволіла стварыць атмасферу, у якой і адбываецца працэс пераемнасці пакаленняў, калі самае істотнае і каштоўнае, што стварылі іншыя продкі ў галіне духоўнай культуры, перадаецца найболып здольным і таленавітым прадстаўнікам беларускай моладзі.

Сёння мы выказваем сваю асаблівую ўдзячнасць Таварыству беларускай мовы яшчэ і за тое, што яно засталося верным нашаму сяброўству і нашай агульнай мэце і падтрымала нас і словам, і справай тады, калі ліцэй зноў апынуўся ў небяспецы. Мы выдатна ведаем, што дзеля гэтага ў цяперашняй сітуацыі ад ягонага кіраўніцтва спатрэбілася праявіць сапраўдную мужнасць і смеласць.



**Да з'езду прамаўляе Уладзімір Колас**

Гэты вычын назаўсёды застанецца ў гісторыі нашага ліцэя, а магчыма, і ў гісторыі Беларусі, бо выкладчыкі і старэйшыя пакаленні ліцэістаў заўсёды будуць казаць пра яго ліцэйскай моладзі, як пра прыклад сапраўднай салідарнасці і ўзаемадапамогі, якіх так не хапае сёння ўсяму нашаму грамадству.

Менавіта гэтая еднасць і непахіснасць у адстойванні галоўных нацыянальных каштоўнасцяў нашага народа робіць Таварыства беларускай мовы сапраўды неабходным усім нам і адкрывае шырокія перспектывы плённай і стваральнай дзейнасці.

Зычым VIII з'езду Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны пасяховай працы, а ўсім ягоным сябрам і кіраўніцтву – моцнага здароўя, сілы духу, бадзёрасці і добрага творчага настрою.

Жыве Беларусь!

*Менск, 12 кастрычніка 2003 г..."*

***Незарэгістраваная Грамадская ініцыятыва – Рада беларускай інтэлігенцыі за подпісам старшыня Рады Ул. Коласа і намесніка – А. Марачкіна накіравала прывітанне VIII з'езду ТБМ, у якім гаворыцца:***

"... Грамадская ініцыятыва – РАДА Беларускай інтэлігенцыі віншуе дэлегатаў 8-га з'езду Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Жадаем плённай працы на карысць Бацькаўшчыны, а перад усім – захавання і развіцця роднай мовы ў гэты няпросты і складаны час, калі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, асабліва Беларускае тэлебачанне, зрусіфікаваныя; зачыняюцца беларускія школы, адзіны ў краіне беларускі ліцэй. Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны было і ёсць той грамадскай арганізацыяй, якая ў сваёй дзейнасці паслядоўна выступае абаронцам роднай беларускай мовы. Поспеху Вам у гэтай высакароднай справе!.."



**На з'ездзе выступае Вольга Іпатава**

***Восьмаму з'езду***
***ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"***
***прысвячаецца***

Шмат ёсць моў на Зямлі,
нібы зорак на небе,
Куды позірк не кінь – залаты небасхіл.
Адна з іх найбліжэй
нам знаёма з дзяцінства:
У ёй Радзіма мая ды палёт смелых крыл.
Лье святло, цеплыню сэрцу кожнаму;
У ёй ласкавая чуецца плынь...
Ззяе ў промнях яна, мова родная,
Бачна ў ёй васільковая сінь.
Шэпча ветрам у полі над верасам,
У мностве гукаў прыроды звініць;
У ёй яднаюцца думкі са словамі,
З ходам часу ў ёй вечнасць гучыць.
Шмат ёсць моў на Зямлі – непаўторных:
Хто далей, хто бліжэй зіхаціць...
Ды з усіх даражэй – мова родная,
Што заўжды сярод нас мае быць.

11.10.2003 г. ***В. Мілаш,***
***Маладзечанская арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.***

# Геннае "ў"




Сёлета падчас святкавання Дзён беларускай пісьмовасці ў старажытным Полацку, у гарадскім гайку пры праспекце Карла Маркса ўсталявалі памятны знак у гонар адной з літар нашага алфавіту. Прынамсі літары "ў" нескладовай. Аўтары памяткі лічаць, што такой літары, як наша "ў", не мае ні адзін алфавіт свету. З гэтай нагоды згадалася...

У сям'і менчукоў Чылікіных, Аксаны і Міколы, гадуецца хлопчык. Завуць яго Сержык, Сяржук. Зараз яму дванаццаць гадоў. Але калі ён быў зусім маленькі, скрозь казаў: "сажаўка", "запаўка", "паўка" (палка), "баўкон", "поў" (пол).

Гэта было дзіва! Нарадзіўся хлопчык у горадзе. Ні ад каго і нідзе не чуў такой мовы. Тым не менш меў такое маўленне.

Адкуль гэта?! Няўжо гены? Вядома ж, у Беларусі шмат якім гаворкам уласціва менавіта такое маўленне. Часам такога пісьма трымалася і "Наша Ніва". На яе старонках можна напаткаць і "сажаўку" і "паўку". Але ж Сержык іх ніколі не чуў і не бачыў. То адкуль?

Прыгадалася... Знаны даследчык нашага этнасу Ян Чачот калісь пісаў: што беларусы – крывічы – вельмі не любяць гукаў "л", "в" і пры пэўных пазіцыях скрозь іх замяняюць на "ў": аўтар (алтар), каўтун (калтун), каўнер (калнер). І вось гэтая несвядомая нелюбоў да гука "л" прабілася напрыканцы XX-га стагоддзя ў нашага сучасніка – з'ява, якую яшчэ ў дзевятнаццатым стагоддзі заўважыў Ян Чачот. Гэта ён сказаў, што крывічы не любяць гукаў "л" і "в", шмат дзе замест "л", "в", крывічы вымаўляюць гук "ў", Якраз гэтак, як было ў Сержыка.

Між іншым, Сержык удаўся хлопчыкам філалагічна здольны. Сёлета ён чакае свае першае кніжачкі. Шмат у гэтай кніжачцы замалёвак і пра нашу мову. Сярод іх адна і пра ягонае геннае "ў". У беларускім пісьме лацінкаю наша "ў" нескладовае перадаецца "*ŭ*".

***Уладзімір Содаль***

## Да тэмы *"Што мне дае беларуская мова?"* і таксама пра гены

Добры дзень, спадары! Беларуская мова не толькі працягвае даваць, а ўжо дала мяне, маю маці, дзеда, прадзеда і г.д.

Вось яна матчына мова: ***кусь, жыжка, мэка, зюзя, люля, ляля, цаца, вава, тпруцькі, ты-лі-лі, бай-бай, тута, а-а-а*** і г.д.

Калі каму не зразумела, дык я змагу перакласці ўсе словы з матчынай мовы на беларускую літаратурную мову. Напрыклад, "Зюзя" – бог холаду і зімы, калі зімой малы адчыняе дзверы ў хаце, дык яму кажуць: "Зюзя" – не ідзі – указ на холад, хваробу. Хто ведае праўдзівую беларускую гісторыю, той ведае, што гэта азначае і адкуль гэтыя словы ўзяліся.

І гэта ўсё ў маіх генах, і дзе б я ні быў яны (гены) застаюцца ў мяне, нашыя і нічые больш. Гэта аксіёма. І тым мы, беларусы адрозніваемся ад іншых моў, людзей. Мы не такія, як любыя іншыя людзі.

**Прыклад:**

Багдановіч Максім, жыў, вучыўся, выхоўваўся ў Расеі, а родная матчына мова перамагла: гены беларускія і - ніякага "братэрства". Ці ўзяць баян. Ён у нас не прыжыўся, асабліва на вёсцы – не наша. Не падыходзіць па нашаму характару, гукі не кранаюць нашы душы, пад яго гукі ногі самі не скачуць, у простым сэнсе. У жыцці яно так і ёсць

Ну а ў гарадах яго (баян) гвалтоўна ўбіваюць у мазгі. Пагэтаму ўсё народнае (кустарнае) – да душы лепей. Мандаліна і руская домра - неба і зямля.

Характар, быт, само жыццё на нашай зямлі, нарадзіла нашу мову і сваю рэлігію, а мова арганізавала і замацавала нацыю, дзяржаву, якая адрозніваецца ад усіх. І не важна, хто мы беларусы, ліцьвіны, крывічы ці дрыгвічы, галоўнае што мы не такія, як іншыя. Мы асобныя і па выгляду, характару і т. д. – прыгледзься

Як цыган. Дзе б ён ні быў – ён цыган, у генах цыган.

А нам хочуць у нашы гены, дадзеныя багам, загнаць чужое, не нашае. Пакуль у іх не атрымліваецца, вось ужо ледзь не 1000 гадоў. Дык яны пачалі сілай выцручваць нас, этнічных людзей гэтай зямлі, як індзейцаў (неперспектыўныя вёскі, Чарнобыль і інш.), а самі засяляюцца пры дапамозе не нашай і да сёння ўлады.

У Магілёве выкупліваюць першыя паверхі дамоў і закопваюцца пад гэтыя дамы, а ўлады (відаць, іхнія) плююць на нас, на нашыя лісты. Лячыць нас пачалі, усе аптэкі іхнія. Адным словам інтэграцыйныя татара-манголы!

А для гісторыкаў кафедры Мазырскага універсітэта высылаю факт гісторыі, які помняць летапісцы, нашы гены і зямля дзедава. Вось з газеты:

"18-га жніўня 1863 г., у Магілёве, пакараны смерцю кіраўнікі Чарнаруцкага аддзела паўстанцаў Магілёўскага р-на браты: І. А. і М. А. – Манцэвічы, В. Корсак і кіраўнік Быхаўскага аддзела паўстанцаў І.Д.Анціпа" *(Веснік Магілёва 04.06.03 г.)*

***З павагай,***
***эл. механік М. Закруцкі.***



# У Асіповічах лічаць жыхароў Бабруйска, Гомеля і Менска ... тупаватымі

**Паважаная рэдакцыя газеты "Наша слова"!**

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Асіповіцкага раёна разаслала на прадпрыемствы і ва ўстановы, што выпускаюць якую-небудзь прадукцыю, лісты з просьбай маркаваць яе па-беларуску, каб падтрымаць вядомы на Беларусі лозунг: "Купляйце беларускае". Адказы, што мы атрымалі; сведчаць, што купіць беларускае нам удасца не хутка і то, толькі добра пашукаўшы.

Зрэшты, глядзіце самі. Мы дасылаем Вам копіі некаторых адказаў. Адказы Асіповічскага малочнага камбіната і ААТ "Дах", як супрацьлеглыя, заслугоўваюць увагі чытачоў усёй краіны, і асабліва горадоў Менска, Гомеля, Бабруйска, дзе быццам бы не чытаюць па-беларуску.

**Нам. старшыні ГА ТБМ Асіповіцкага раёна С. Бародзіч.**




**Редакция газеты "Асіповіцкі край"**
**Копия: Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

На Вашу заметку в газете можем сообщить следующее, что согласно СТБ 1100-98 текст на потребительской таре или этикетке наносится на белорусском или русском языке. Учитывая, что молочная продукция поставляется не только на рынок Осиповичского района, но и в другие регионы республики (Гомель, Бобруйск, Минск и т.д.) и многие потребители не знают белорусского языка, не умеют на нем читать, поэтому было принято решение наносить подписи на русском языке. В настоящее время поменять все подписи невозможно, так как это потребует дополнительного вложения денежных средств, которых на комбинате недостаточно. Мы считаем, что основным критерием оценки молочной продукции является ее качество, от которого зависит спрос.

С уважением,

**И. о. директора – Гнетько В. В.**

СУМЕСНАЕ БЕЛАРУСКА-БРЫТАНСКАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА **"ДАХ"** АДКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА вул. Чапаева - 11, 213760, г. Асіповічы, Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь. Тэлефоны: (8-02235) 22-190




СОВМЕСТНОЕ БЕЛОРУССКО-БРИТАНСКОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ **"КРОВЛЯ"** ОТКРЫТОЕ АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО ул. Чапаева - 11, 213760, г. Осиповичи, Могилёвской области, Республика Беларусь. Телефоны: (8-02235) 22-190

**Паважаная Таццяна Ўладзіміраўна!**

СП ААТ "ДАХ" пастаўляе сваю прадукцыю не толькі ў межах Беларусі, а таксама ў краіны блізкага замежжа (Расія, Малдова, краіны Балтыі, Германіі, Польшчы і інш.) Спажыўцы гэтых краін патрабуюць ад прадпрыемства надрукавання інфармацыі аб нашай прадукцыі на рускай мове, што між тым з'яўляецца агульнапрынятай нормай.

Калі ж спажыўцы звернуцца да нас з просьбай аб афармленні інфармацыі аб нашай прадукцыі на беларуская мове, мы абавязкова гэта зробім.

Шчыра дзякуем за Вашу глыбокую заклапочанасць аб нашай краіне і яе дзяржаўнай мове. Жадаем Вам моцнага здароўя і поспехаў у Вашых справах.

З павагай.

**Дырэктар СП ААТ "ДАХ" – М. А. Калтуноў.**

***Ад рэдакцыі.*** *Сапраўды, наколькі ж трэба лічыць тупым уласны народ, каб на поўным сур'ёзе заяўляць, што нехта ў Беларусі не зразумее словаў:* ***"МАЛАКО", "СМЯТАНА"*** *ці* ***"ТВАРОГ"****. Тут можна сказаць толькі адно, калі на самім Асіповіцкім малочным заводзе такія ёсць, то грошай на гэтым заводзе, дакладна, ніколі не будзе ні для замены надпісаў, ні для чаго іншага.*

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**ПРАЦЯГВАЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца***
***23, 24, 29, 30 і 31 кастрычніка ў 18.00***
***у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

**23 кастрычніка.** "Менск у часы сталінскіх рэпрэсіяў" - пісьменнік **Кастусь Тарасаў.**

**24 і 31 кастрычніка.** "Гісторыя ўзнікнення палітычных партый і рухаў у Менску" - кандыдат гістарычных навук **Віталь Скалабан.**

**29 і 30 кастрычніка.** "Менскія ваколіцы" - доктар гістарычных навук, прафесар **Анатоль Грыцкевіч.**

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.**

## Адказы на крыжаванку на ст. 8.

**Па гарызанталях:** 2. Гак. 5. Майстра. 7. Адамант. 10. Вір. 11. Кат. 12. Тарка. 15. Казытка. 17. Баравік. 20. Байка. 21. Талерка. 22. Багоўня. 23. Крама. 25. Сажалка. 26. Калматы. 27. Шум. 28. Пырска. 30. Расеяц. 32. Жур. 34. Вакол. 35. Яна. 36. Ганьба. 37. Ясачка.

**Па вертыкалях:** 1. Вар. 2. Газа. 3. Карк. 4. Енк. 5. Міса. 6. Састарэласьць. 8. Мудрагельства. 9. Такі. 12. Табака. 13. "Рэй". 14. Абабак. 15. Кутас. 16. Залежны. 18. Ваўчаня. 19. Княжы. 24. Абутак. 28. Пруг. 29. Асва. 30. Роля. 31. Цына. 33. Раю. 35. Які.

# Дабравесці ад Уладзіслава Сыракомлі

Сёлета Любаньшчына святкавала 180-я ўгодкі з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі. Юбілей актывізаваў літаратурнае жыццё раёна.

5 верасня адбылася літаратурна-краязнаўчая вандроўка "Над ракой Арэсай", у якой прынялі ўдзел беларускія пісьменнікі-земляки Л. С. Савік, У. А. Паўлаў, Т. М. Дасаева, Н. В. Маеўская.

29 верасня адбылася прэзентацыя кнігі Лідзіі Савік "Адна між замкаў. Творчы партрэт Вольгі Іпатавай". Прынялі ўдзел пісьменнікі Л. Савік, В. Іпатава, Э. Ялугін, В. Корбут.

Прайшоў шэраг мерапрыемстваў у Любаньскай ЦРБ і Ўрэцкай г/п бібліятэцы да 180-х угодкаў У. Сыракомлі і П. Шпілеўскага, сярод якіх літаратурна-фальклорная вечарына "Не я пяю - народ Божы", літаратурна-краязнаўчыя чытанні "Наша спадчына прамаўляе", дэкада памяці да 180-годдзя У. Сыракомлі і П. Шпілеўскага.

Кульмінацыяй святкаванняў стала Міжнародная навуковая канферэнцыя "180-годдзе з дня нараджэння польскага і беларускага паэта і этнографа Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча)", якая прайшла 29-30 верасня 2003 года ў Менску і Любані. У канферэнцыі прынялі ўдзел навукоўцы і пісьменнікі з Беларусі, Польшчы, Літвы.

Падчас канферэнцыі 30 верасня ў Смольгаве, на радзіме У. Сыракомлі быў адкрыты памятны знак Уладзіславу Сыракомлю, работы лідскага скульптара Рычарда Грушы.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# Філатэлістыка ў Гудзевіцкім музеі

У Гудзевіцкім дзяржаўным літаратурна-краязнаўчым музеі можна наведаць філатэлістычную выставу. Зноў падрыхтаваў яе выкладчык матэматыкі Пілкоўскай базавай школы Карповіч Лявон Эдуардавіч.

Нарадзіўся Лявон Эдуардавіч 21 лютага 1944 года. У Ваўкавыску. Там жа скончыў восем класаў і паступіў у Жыровіцкі сельгастэхнікум. Таксама бліскуча вучыўся ў інстытуце механізацыі і электрафікацыі сельскай гаспадаркі. Пасля гэтага ён вучыўся ў педагагічным інстытуце на матэматычным аддзяленні. Выкладаў матэматыку у Луненскай СШ, чатыры гады быў дырэктарам Ябланёўскай школы. Пасля гэтага ён перавёўся ў Пілкоўскую СШ, дзе працуе і сёння.

Захапляцца філатэлістыкай настаўнік пачаў з 1991 года. Дзякуючы яго працы за апошнія 12 гадоў у Гудзевіцкім музеі праходзіць ужо трэцяя філатэлістычная выстава. І кожны раз па іншай тэматыцы.

Цяперашняя выстава мае назву "Белавежская пушча". На тытульным аркушы прыгожае, вершаванае яе апісанне:

*... Кроны купал неба падперлі.*
*Зубр на мох, як ягнё, прылёг*
*Ля бярозы у белай адзежы.*
*Калі недзе існуе Бог,*
*Тут ён, пэўна, у Белавежы.*

Гэтыя словы ўзятыя з верша Ларысы Геніюш. Чытаючы радкі паэткі адчуваеш гонар за нашых магутных зуброў, за нашу родную прыроду. Усе паштоўкі вельмі каштоўныя. Яны адлюстроўваюць і птушку, і звера ў жыцці. Дакладна такія моманты ў прыродзе цяжка ўбачыць. Сама выстава прымушае задумацца пра тое, што многія птушкі, звяры, расліны знаходзяцца пад пагрозай вымірання. Выходзячы з гэтага само сабой узнікае пытанне аб іх ахове. Кожная марка змяшчае выяву ці жывёлы, ці птушкі і абавязкова будзе на ёй стаяць пячатка той мясціны, дзе яны жывуць або гняздзяцца. Наведаўшы выставу, вы пазнаёміцеся з тымі птушкамі, якія жывуць на Беларусі. Сёння іх налічваецца каля 400 відаў. Задача філатэліста і заключаецца ў тым, каб здабыць 400 марак з выявамі гэтых птушак. Гэта вельмі складаная праца. Часта даводзіцца весці перапіску з іншымі краінамі для таго, каб здабыць патрэбную марку.

Наведванне выставы дае магчымасць узбагаціцца новымі ведамі, далучыцца да дзівоснага і разнастайнага свету прыроды, зразумець, якая яна багатая і непаўторная.

*Мая Сідар.*

# СТВАРЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЦЭНТРА МУЗЫЧНАГА МАСТАЦТВА ІМЯ УЛАДЗІМІРА МУЛЯВІНА ПЛАНУЕЦЦА ЗАВЯРШЫЦЬ ДА КАНЦА ГОДА

Стварэнне Нацыянальнага цэнтра музычнага мастацтва імя Уладзіміра Мулявіна плануецца завяршыць да канца года. Аб гэтым паведаміў 17 кастрычніка на прэс-канферэнцыі міністр культуры Леанід Гуляка.

Паводле яго слоў, перш за ўсё, у склад цэнтра ўвойдуць Дзяржаўны ансамбль "Песняры", Маладзёжны тэатр эстрады, аб'яднанне "Белканцэрт". "Не закрытая дарога і для ансамбля "Сябры", калі яны пажадаюць знаходзіцца пад эгідай цэнтра, для груп "KRYWI", "Палац", таму што мы зацікаўлены, каб да яго з усіх бакоў цягнуліся творчыя людзі, — сказаў міністр. — Пад гэтым дахам хопіць месца усім, у першую чаргу, тым, хто мае свой кірунак у творчасці, у тым ліку, у эстрадзе".

Гаворачы аб функцыях цэнтра, Л. Гуляка зазначыў: "Чым больш у нас будзе прафесійных і нават непрафесійных выканаўцаў, і чым больш творчая палітра іх дзейнасці, тым лепш для развіцця эстрады".

Сярод задач цэнтра — пошук талентаў сярод моладзі, падлеткаў і дзяцей.

***Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ, БелаПАН.***

# У БЕРАСЦІ ПРАЙШЛА НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ ТВОРЧАСЦІ ПАЭТКІ, ДРАМАТУРГА І ПЕРАКЛАДЧЫЦЫ НІНЫ МАЦЯШ

16 кастрычніка ў Берасцейскім дзяржаўным універсітэце (БрДУ) імя А.С.Пушкіна прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Душою з небам гаварыць...", прысвечаная 60-годдзю выдатнай беларускай паэткі, драматурга і перакладчыцы Ніны Мацяш.

Як паведамілі БелаПАН на кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ, удзел у канферэнцыі бралі студэнты ВНУ, пісьменнікі, паэты і навуковыя работнікі. У якасці гасцей запрошаныя вядомы пісьменнік Уладзімір Арлоў і, вядома, сама Ніна Мацяш, якая прыехала на канферэнцыю з Белаазёрска (Бярозаўскі раён), дзе пражывае.

Сваё 60-годдзе паэтка адзначыла 20 верасня. Яна нарадзілася ў вёсцы Ніны Бярозаўскага раёна, скончыла Менскі інстытут замежных моў. Ніна Мацяш выдала больш за дзесяць паэтычных зборнікаў, пераклала на беларускую мову шмат твораў сусветнай класікі, у тым ліку П'ера Жана Беранжэ, Фрыдрыха Шылера, Антуана дэ Сент-Экзюпеperы. На яе вершы напісана шмат песень. Н.Мацяш узнагароджана літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова.

Для многіх творчых людзей яе імя з'яўляецца прыкладам незвычайнага таленту, упэўненасці ў сваіх сілах, гатоўнасці кінуць выклік складаным выпрабаваннем лёсу.

***Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.***





# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*




Шлях сям'і Швэдзюкоў па тэрыторыі Беларусі




Шлях сям'і Швэдзюкоў па тэрыторыі Расеі




Шлях сям'і Швэдзюкоў па тэрыторыі Расеі

**БАБКА НАТАЛЛЯ**

З бабкай Наталляй (па бацьку) была наступная гісторыя. Калі нашу сям'ю арыштавалі яна была вельмі хворая, ляжала на ложку пры смерці. НКВД-зісты забачылі, што яна не ў сілах ані сядзець, ані стаяць – толькі ляжаць. Пастанавілі яны яе пакінуць, не вывозіць. Забрала яе да сябе яе дачка, а мая цётка Марта. Так што яна адна з нашай сям'і засталася дома. Але не на доўга.

Цераз два месяцы, ў красавіку 1940 года яе адну арыштуюць. Яе, схворанаю, старэнькую, ёй было тады прыблізна 68 гадоў, перапалоханую і не здольную да фізічнай працы тако ж вывозяць з роднага гнязда. Мы доўгі час не ведалі што з ею сталася, куды яе вывезлі. Не ведалі нават ці яна ёсць у жывых. Але ў канцы дазналіся, куды яе вывезлі. Вывезлі яе да лагера Унжлаг, які знаходзіўся каля чыгуначнай станцыі Сухабязводнае ў Горкаўскай вобласці, паміж Горкім (цяпер Ніжні Ноўгарад) і Кацельнічам.

Унжлаг быў дадатковым лагерам. Цягнікі вывозілі тых людзей якія падчас арышту 10.02.1940 г. не былі дома ці былі хворыя.

Мы, ў Архангельскай вобласці, пачалі старацца, каб яе (бабку) перавезлі да нас. У канцы так і сталася. Улетку 1940 г. яе прывезлі да нас. Між іншым, у тым самым часе прывезлі яшчэ адну старэнькую кабету з Унжлага да яе радні на нашым пасёлку – лагеры.

Дык у нас на высылцы ў Архангельскай вобласці была ужо поўная сям'я – 9 душ.

Бабка Наталля была родам з паблізкай вёскі Канчыцы. Яе дзявочае прозвішча было Ярашук. Была яна добрай, чулай, рэлігійнай і богабаязнай кабетай. Нікому, ніколі ў жыцці не зрабіла крыўды. Дык за што яна мусіла перанесці арышты, мукі, гора, слёзы?

Памерла яна ў 1943 годзе ў Афрыцы. Пахавалі яе ў мясцовасці Тэнгэру (Tengeru), недалёка ад горадка Аруша (Arusha) ў Танзаніі.

**СПАТКАННЕ З ЛАГЕРНЫМ НАЧАЛЬСТВАМ**

На другі дзень пасля нашага прыезду да лагера – пасёлка г. зн. у суботу 24.02.1940, "завхоз" (заведующий хозяйством) паведаміў усім, каб усе здольныя да працы пайшлі да Чырвонага кутка ("Красного уголка) на сход. Чырвоны куток быў замалы, каб памясціць усіх людзей.

Да Чырвонага кутка прыйшла ўся лагерныя ўлада: камендант; ляснічы, тэхнарукі, дзесятнікі, магазінер і д. п. Усе яны забіралі голас і гаварылі аб сваіх мэтах, абавязках.

Камендант аб'явіў, што мы знаходзімся там, як "спецпереселенцы" г. зн. спецыяльна пераселеныя да прац у лесе. Усе мусяць працаваць ад 16 гадоў. (У практыцы было інакш: да працы ішлі дзеці па 15 і 14 гадоў, дзе не было працоўных людзей у сем'ях). Нам не вольна было хадзіць да станцыі Емцы і да іншых лагераў з "спецпераселенцамі". Ды і не вольна было аддаляцца ад пасёлка за выняткам хаджэння да працы. Пісанне лістоў да радні, блізкіх дазвалялася. За "прагул" будуць караць.

На кожны барак быў прызначаны "дзяжурны". Абавязкам дзяжурнага было зрабіць спіс людзей у яго бараку і аддаць у камендатуру. Першым камендантам быў Губінскі, праўдападобна польскай нацыянальнасці. Ён не быў дрэнным чалавекам.

Гэтыя спісы – эвідэнцыі рабілі часта. Да абавязкаў дзяжурнага было тако ж здаваць штодзённа (вечарам) справаздачу – рапарт, што ўсе жыхары барака ёсць на месцы. Хадзіла тут, каб паведаміць каменданта пасёлка, што ніхто з лагера не ўцёк. Успомню тут, што з нашага пасёлка ніхто не ўцякаў і не ўцёк.

Як я ужо ўспомніў, голас забіралі і іншыя людзі з лагернага начальства.

Тут высветлілася, што спецперасяленцам не можна было звяртацца ані да начальства, ані да мясцовых жыхароў пасёлка цераз "товарищ". Трэба было звяртацца цераз "гражданин"

**ПАСЁЛАК – ЛАГЕР "10-Ы КВАРТАЛ"**

Пасёлак "10-ы квартал" знаходзіўся ў лесе за 10-ць кіламетраў ад станцыі Емцы, каля бочнай чыгункі, якая адходзіла на захад ад галоўнай чыгункі Волагда-Архангельск. Гэта бочная чыгунка ішла далей ад "10-га квартала", да наступных лагераў з спецперасяленцамі як "Островский лесопункт" і "Нухта Озеро". Нам не вольна была хадзіць да гэтых лагераў.

Пасёлак "10-ты квартал" быў пабудаваны ў 30-ых гадах мінулага стагоддзя ўкраінскімі перасяленцамі. Мала хто з гэтых украінцаў застаўся ў жывых. Тыя хто застаўся ў жывых казалі нам, што, як іх прывезлі, то там нічога не было, толькі дрымучая тайга. Іх пакінулі ці выкінулі пад голым небам. Многія з іх там і паўміралі, сведкам чаго быў вялікі магільнік каля пасёлка. З далёкай Англіі хілю галаву перад памяццю гэтых няшчасных людзей, - ахвяр дыябальскага нечалавечага, камуністычнага рэжыму.

Але, на наша шчасце, украінцы паспелі пабудаваць драўляныя баракі, да якіх укінулі і нас. Выглядала, што ўкраінцаў прымалі больш строга, чым нас. Іх пільнавала альбо міліцыя альбо НКВД. Доказам гэтага была адна паваленая, а другая яшчэ цэлая, вартавыя вежы на вуглах пасёлка.

У бараках былі пакойчыкі малога памеру. Вялікія сем'і, як, напрыклад, наша з 9 асоб займала тако ж адзін пакойчык, які быў сталоўкай, кухняй, спальняй і складоўкай. Бывала часам, што давалі па дзве сем'і да аднаго пакойчыка, што прыводзіла да непаразуменняў.

У пакоях былі печкі, якія ўжываліся да абагрэву і да варэння яды.

З пасёлка была адна дарога цераз лес да станцыі Емцы. Па дарозе, некалькі кіламетраў ад Емцаў, быў пункт які называўся "Карантин". Толькі да гэтага пункта нам, спецперасяленцам, можна было ехаць ці хадзіць. Быць можа гэты пункт назвалі "Карантин" дзеля таго, каб мясцовым жыхарам у Емцах казаць, што там у пасёлку жывуць людзі, якія заражаны якойсь невылечнай, інфекцыйнай хваробай; бо ад камуністаў можна было ўсяго спадзявацца.

Дзеля таго што пасёлак быў паўнасцю ізаляваны ад іншых пасёлкаў, вёсак, дык дзеля яго існавання трэба было мець розныя ўстановы. І так:

**КАМЕНДАНТУРА**

Гэта сядзіба каменданта лагера. Камендант меў, нам здавалася, неабмежаваныя правы. Ён сачыў за тым, каб усе працаздольныя ішлі да працы. Сачыў за дысцыплінай, парадкамі.

Каменданты ў нашым лагеры мяняліся некалькі разоў. Бяручы агульна, каменданты не былі дрэннымі людзьмі.

**КАНТОРА**

У канторы працавалі розныя клеркі, бухгалтары, якія падлічвалі зарплату. Яны выплачвалі тако ж грошы за працу. У канторы давалі грашовую пазыку (залічку), але не ўсім і не заўсёды.

**ПЯКАРНЯ, КУХНЯ, КРАМА**

У пякарні, з адным пекарам, пяклі хлеб для ўсяго лагера. Пекар, Мікалай Часнакоў, працаваў вельмі цяжка. Быў добрым чалавекам. Дапамагала яму ў працы яго жонка, у печы палілі тоненька наколаным дрэвам, якое нарыхтоўваў мой 14-ці гадовы брат Пятро. Мая маці тако ж дапамагала ў працы ў пякарні. Я часта бываў у пякарні.

Згодна з савецкай практыкай, нават у выпечцы хлеба была "норма". Да пякарні прывозілі муку і алей да формаў. Пекар з гары ведаў колькі мае спячы хлеба з аднаго кілаграма мукі. Каб вырабіць "норму", і ў бояззі перад наступствам у невыпечцы належнай вагі (нормы) хлеба, трэба было хлеб не дапякаць. Часам хлеб быў сыры. Не раз такі хлеб называлі "кирпичником" г. зн. цяжкім, як цэгла.

На пачатку пяклі толькі адзін сорт чорнага хлеба. Потым пяклі яшчэ і белы хлеб.

Зімой былі цяжкасці з вадой. Ад вялікіх марозаў студня каля пякарні замярзала, і не можна было дабрацца да вады. Ваду трэба было насіць здалёк, у вёдрах на каромыслах, на плячах. А пякарня патрабавала многа вады.

*(Працяг у наст. нумары.)*

Мікола Котаў

# НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ

***Для любога ўзросту, танцавальныя, жартоўныя, рухомыя, седзячы, стоячы, масавыя і ціхія, для любой вечарыны, абрадавага свята, вяселля, юбілею, на свежым паветры: на вуліцы, плошчы, лузе, на вадзе і ў любых памяшканнях***

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

### ДЗЕНЬ І НОЧ

Малююць на зямлі кружкі-"хаткі" па колькасці на адзін менш, чым гульцоў. Выбіраюць вядоўцу — "ваду". Калі "вада" скажа: "Дзень!" — усе ходзяць, скачуць, бегаюць вакол кружкоў, дзе каму захочацца. Калі ж прагучыць каманда "вады": "Ноч!" — кожны гулец (і "вада" таксама) імкнецца хутчэй стаць ў любы кружочак-"хатку". Каму не дасталося "хаткі", той становіцца "вадай".

*(Гульню цікавей праводзіць пад музыку.)*

### ПАМЕЖНІК

Сярод дзяцей выбіраюць аднаго, які будзе стаяць на "мяжы", што праводзяць на зямлі паміж ім і гульцамі.

"Памежнік" стаіць спіной да гульцоў, а тыя паціху, крадучыся, ідуць да "мяжы". Калі "памежнік" павернецца да іх, усе заміраюць на месцы, калі адвернецца — зноў ідуць. Хто першым дакранецца да "памежніка", той і становіцца на "мяжы". "Памежнік" можа нечакана паварочвацца некалькі разоў. Калі хто не паспеў спыніцца, і "памежнік" убачыў, як ён рухаецца, то адганяе яго назад, ён павінен стаць апошнім. Таму трэба быць пільным, каб дайсці да "памежніка".

### ЕВА, АДЫДЗІ АД ДРЭВА

Гульню добра праводзіць з дзецьмі ў лесе, а калі ўсё ж у памяшканні, то лепш ставіць па ўсёй зале якіясь прадметы (крэслы, кеглі і г. д., і тады мяняюцца словы ў гульні: замест "ад дрэва" кажуць "ад стала" ці "ад крэсла", каб было весялей).

Усе гульцы становяцца кожны ля свайго дрэва і абдымаюць яго абедзвюма рукамі. Вядовец падыходзіць да любога з іх і кажа: "Ева, Ева, адыдзі ад дрэва". А той яму ў адказ: "Адыдзі на тры метры ты". Вядовец адыходзіць, а гэты, што трымаўся за дрэва, уцякае, ён павінен перабегчы да іншага дрэва. Калі вядовец дагоніць яго, пакуль ён яшчэ не паспеў абняць новае дрэва, то ён становіцца на месца даганяўцы, і гульня працягваецца.

### КАЛІМ-БАБА

Гульцы становяцца ў два рады — адзін насупраць другога (па 8 ці 10 чалавек).

Першы рад крычыць: "Калім-Баба!"

Другі адказвае: "Нашто слуга?"

Першы: "Прышыць рукавы!"

Другі: "На чые бакі?"

Першы: "Пяты, дзесяты... Ваню (называюць імя) сюды!"

Выбраны з другога рада гулец разбягаецца і бяжыць да першага, стараючыся разарваць яго. А ў ім павінны моцна трымацца за рукі. Калі разарваць удаецца, ён з першага рада забірае гульца, чыю руку разарваў, у свой рад. Калі не разарваў, то застаецца ў першым радзе. І гульня працягваецца, толькі пачынае яе ўжо другі рад.

### ЗАЙЧЫК

Па ліку гульцоў выбіраюць аднаго "зайчыкам". "Зайчык" стаіць у цэнтры круга, астатнія — хто дзе хоча. Усе спяваюць (ляпаючы ў далоні перад кожным радком):

- Заінька шэранькі, дзе ты быў?

"Зайчык" адказвае:

- Ля млына, ля млына.

Усе:

- Што ты там бачыў?

"Зайчык":

- Мех мукі, мех мукі,

Вось такі, вось такі

Мех мукі, мех мукі.

На гэтых словах ён гоніцца за гульцамі. Каго зловіць, той далей будзе "зайчыкам".

### ХОВАНКІ

Па лічылцы выбіраюць "ваду". Ён становіцца тварам да дрэва, сцяны ці плота, заплюшчвае вочы і пачынае лічыць. Лічыць да той лічбы, колькі чалавек гуляе. За гэты час усе павінны схавацца. Потым "вада" ідзе шукаць. Гульцам трэба, каб ён іх не знайшоў, а непрыкметна хутка выбегчы са сваёй схованкі, дакрануцца да таго месца, адкуль пачалі гуляць (дрэва, сцяны ці плота) і выгукнуць: "Тук-тук, я ёсць тут!" А "вада" стараецца не пусціць туды і каго-небудзь "зачурыць" — дакрануцца рукой. Першы "зачураны" і будзе наступнай вадай.

### ШУКАЙ

Усе дзеці збіраюцца ў кола, выбіраюць аднаго "ваўком" а другога — "зайчыкам". Вядовец пачынае казаць (а усе паўтараюць за ім пасля кожных двух радкоў):

- Раз, два, тры, чатыры,

Зайчык вушы натапырыў.

Ідзе з лесу воўк, воўк,

І зубамі шчоўк, шчоўк.

Мы схаваемся ў кусты:

Зайка шэры, я і ты.

Ты, воўк, пачакай,

Як схаваемся — шукай!

Усе хаваюцца ў розныя бакі. А "воўк" пачынае шукаць. Каго ён зловіць першага, той далей будзе "ваўком". Так ловіць, пакуль "зайца" не зловіць. Тады гульня пачынаецца зноў.

### У КОЦІКА І МЫШАК

Усе дзеці становяцца ў рад. Аднаго па ліку выбіраюць "катом", ён становіцца насупраць іх. Усе скачуць і спяваюць:

- Тра-та-та, тра-та-та,

Не баімся мы ката!

Калі "мышы" вельмі разгуляліся, "кот" раптам як скочыць, як фыркне! Усе з перапуду заміраюць на месцы. Хто зварухнецца альбо засмяецца, становіцца "катом".

### ДУ-ДУ

Усе дзеці становяцца ў кола, выбіраюць аднаго хлопчыка — ён будзе "казёл-барада", чапляюць яму бараду, завязваюць вочы. Ён ходзіць па кругу, а ўсе спяваюць:

- Ду-ду, казёл-барада,

Ду-ду, прадаў барана,

Ду-ду, купіў коску.

Ду-ду, нашто тая коска?

Ду-ду, сенца касіць.

Ду-ду, нашто тое сенца?

Ду-ду, кароўку карміць.

Ду-ду, нашто тая кароўка?

Ду-ду, каб давала малако.

Ду-ду, нашто тое малако?

Ду-ду, Настачку паіць.

На апошніх словах "казёл-барада" павінен дакрануцца да каго-небудзь рукой. Да каго дакранецца, той і будзе "казёл-барада".

### ЕХАЎ ЦЯГНІК

Дзеці па ліку выбіраюць аднаго "цягнікам" (а можна проста назначыць самага здаровага). Астатнія — "вагоны". Яны становяцца за ім ланцужком, бяруць адзін другога за плечы.

"Цягнік" паехаў, а ўперадзе — вельмі слабы мост.

"Цягнік" кажа:

- Ух, баюся!, Ух, баюся!, Ух, баюся!

"Вагоны" (усе разам):

- Як-небудзь, як-небудзь, як-небудзь!

"Цягнік", праехаўшы мост:

- Праехаў! Праехаў! Праехаў!

Ох, добра, ох, добра, ох, добра!

А "вагоны":

- Тук, тук, і мы тут! Тук, тук, і мы тут!

Можна гуляць пад музыку, спяваючы.

### ЖМУРКІ

**(Восеньская гульня)**

Удзельнікі становяцца ў кола, у сярэдзіне — "жмурка", якому завязваюць вочы. Гульцы, узяўшыся за рукі, ходзяць і гавораць:

- Маша, Маша,

Ты пацеха наша,

Ручкі складзі

І імя скажы.

Тут яны спыняюцца. "Жмурка" адгадвае імя таго, хто спыніўся насупраць яго. Калі не адгадае, усе працягваюць хадзіць, а калі адгадае, то той становіцца новай "жмуркай".

*(Працяг у наступным нумары.)*

## Крыжаванка "Адновім мову"

***Перакласці на беларускую мову***

*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 2. Крюк. 5. Мастер. 7. Брилиант. 10. Водоворот. 11. Палач. 12. Тёрка. 15. Щекотка. 17. Белый гриб. 20. Басня. 21. Тарелка. 22. Божница. 23. Магазин. 25. Пруд. 26. Косматый. 27. Пена (пры кіпенні, на сырадоі). 28. Капля брызг. 30. Россиянин. 32. Кисель (аўсяны). 34. Около. 35. Она. 36. Позор. 37. Искорка, светик.

**Па вертыкалях:** 1. Кипяток. 2. Керосин. 3. Зашеек. 4. Стон. 5. Миска. 6. Устарелость. 8. Замысловатость (мудрёность). 9. Такой. 12. Нюхательный табак. 13. "Есть" (адказ вайскаўца на загад). 14. Подберёзовик. 15. Кисть (аздоба). 16. Зависимый. 18. Волчонок. 19. Княжеский. 24. Обув. 28. Край ткани (неабшыты). 29. Оса. 30. Роль. 31. Олово. 33. Советую. 35. Какой.


**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 20. 10. 2003 г.
Наклад 2300 асобнікаў. Замова № 2297.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
*Кошт у розніцу:* 240 руб. (у Менску - 250 руб.)